№3 (186)

# ПАХОДНЯ

*Грамадска-палітычная газета*

Люты 2015 г.

## КАЛОНКА НАВІН

### У краіне

**Внешний государственный долг Беларуси достиг 12,6 млрд. USD.**

По данным Министерства финансов РБ, государственный долг Беларуси на 1 января 2015 года составил 197,5 трлн. BYR и увеличился за год на 43,4 трлн. BYR, или на 28,2%. Внешний государственный долг достиг 12,6 млрд. USD, увеличившись с начала 2014 года на 139,34 млн. USD, или на 1,1%(с учетом курсовых разниц).

В январе—декабре 2014 года были привлечены внешние государственные займы на сумму 5200,8 млн. USD.

### У Прыдняпроўі

**Почти на 45% увеличилось количество безработных в декабре 2014 года в Могилевской области.**

В декабре 2014 года в экономике Могилевской области было занято 471,9 тыс. человек, что на 1,9% меньше, чем в декабре 2013- го. По данным комитета по труду, занятости и соцзащите Могоблисполкома численность безработных, зарегистрированных в органах по труду, занятости и соцзащите, на конец декабря 2014 года составила 3,1 тыс. человек, что на 44,7% больше, чем на конец декабря 2013 года, и на 8,2% больше, чем на конец ноября 2014 года.

### У раёне

**Згодна дадзеных бялыніцкіх статыстыкаў,** сярэдняя заработная плата па народнай гаспадарцы Бялыніцкага раёна ў снежні 2014 года склалася на ўзроўні 5 600,8 тысяч рублёў. Тыя ж статыстыкі падлічылі, што ў параўнанні заналагічнымі перыядамі 2013 г. тэмп росту намінальнай зарабатнай платы склаў 121,3%.

Магчыма, мы жывём з імі ў нейкіх розных Бялыніцкіх раёнах…

**Па інфармацыі раённага аддзела ЗАГС** у студзені 2015 года ў Прыдруцкім краі нарадзілася 14 дзетак, або на 5 менш, чым у студзені 2014 года.

З жыцця пайшлі 32 чалавекі.

# У ЧАКАННІ НОВЫХ АБЯЦАННЯЎ

***Ніхто з знаёмых бялынічан зараз нават не ўзгадвае, што на адбыўшымся напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў у 2010 "Усебеларускім народным сходзе" кіраўнік краіны Аляксандр Лукашэнка шмат распавядаў пра шчаслівае жыццё, якое нас чакае ў хуткім будучым, і абяцаў сярэдні заробак для простага беларуса ў 2015 годзе ў памеры 1000 "праклятых буржуінскіх" зялёных грошай.***




Не ведаю, што будзе абяцаць Аляксандар Рыгоравіч перад ужо даволі хуткімі чарговымі "выбарамі Аляксандра Лукашэнкі прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь", аднак ужо зараз магу адзначыць, што выкананыя гэтыя абяцанні будуць аналагічна папярэднім.

Зразумела, што самы закляты апазіцыянер даўно ведае аб тым, што на працягу наступнай кадэнцыі краінай будзе кіраваць той жа чалавек, які кіруе ёй і зараз, аднак усёткі хацелася б даведацца, якое нечуванае шчасце чакае нас напярэдзе крыху больш дакладна.

А вось якраз з гэтым у нашых нязменных уладаў у дадзены момант вялікія праблемы. Адзінае, што яны могуць паставіць сабе ў заслугу – гэта стабільнасць і мірнае неба над галавой шчаслівых беларусаў. Ну, за мірнае неба ім сапраўды дзякуй, слава Богу, што не ўлезлі ўслед за Расіяй у нейкую вайсковую авантуру. Праўда, яшчэ могуць, бо ў уступіўшай днямі ў дзеянне новай рэдакцыі Закона "Аб вайсковым становішчы" нашыя слаўныя парламентарыі разам з Рыгоравічам пастанавілі лічыць нападам на Рэспубліку Беларусь не толькі дзеянні, наўпрост скіраваныя супраць нашай краіны, але таксама і "акт узброенай агрэсіі з боку якой-небудзь дзяржавы альбо групы дзяржаў супраць дзяржавы-удзельніка Арганізацыі Дамовы аб калектыўнай бяспецы (АДКБ)".

Каб было больш зразумела, шаноўныя чытачы, растлумачу больш папулярна – згодна новай рэдакцыі закона, калі на нашых сярэднеазіяцкіх сяброў ажыццявяць напад аўганскія талібы (а гэта вельмі верагодна пасля вываду войскаў заходніх дзяржаў з тэрыторыі Аўганістана, лічаць практычна ўсе

*(Працяг на стар. 4)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# БЯЛЫНІЦКІЯ “САЛАЎІ-РАЗБОЙНІКІ”

***Вось ужо больш за паўтары гады перад мастом праз раку Друць каля Бярозаўкі стаіць “часовы” дарожны знак абмежавання хуткасці транспартных сродкаў мяжой у 40 кіламетраў у гадзіну. Нейкія рамонтныя работы на гэтым шматпакутным масту за ўвесь гэты тэрмін так ніхто і не распачаў, дарэчы, па незразумелых для мяне і іншых жыхароў Бялыніцкага раёна прычынах. Затое слаўныя бялыніцкія супрацоўнікі ДАІ гэта месца вельмі моцна палюбілі: некалькі дзён на тыдзень яны робяць там “засады” і ловяць “разяватых” кіроўцаў аўтамабіляў за перавышэнне хуткасці.***



Пра сталае месца дыслакацыі нашых мудрых інспектараў ДАІ ведаюць ужо многія кіроўцы, і не толькі бялыніцкія, аднак усё-роўна даволі часта яны патрапляюцца там на перавышэнні хуткасці, дапамагаючы пільным ДАІшнікам выконваць планы па штрафам і забяспечваць бюджэт “квітнеючай” Беларусі людскімі грашыма. Дарэчы, выраз «вот, соловьи-разбойники снова здесь стоят» я пачуў ад кіроўцаў маршрутак, якімі пастаянна даводзіцца ездзіць па журналісцкіх справах.

Ніхто не спрачаецца, правілы дарожнага руху, безумоўна, выконваць трэба. Аднак выконваць іх трэба, таксама безумоўна, усім, у тым ліку і слаўным бялыніцкім ДАІшнікам з не менш працавітымі мясцовымі дарожнікамі. Патлумачу, чаму я пра гэта пішу – часовык знак абмежавання хуткасці “40 км у гадзіну” стаіць каля маста праз Друць амаль два гады, а ніякага рамонту там ніхто так і не распачаў. Між тым, згодна нашага роднага беларускага заканадаўства, менавіта слаўныя супрацоўнікі ДАІ з не менш слаўнымі супрацоўнікамі дарожных арганізацый адказваюць за падтрыманне годнага стану на дарогах нашай краіны. І, калі мудрыя бялыніцкія наглядчыкі за парадкам на дарогах ператварылі гэты мост у своеасаблівую “кармушку” па выпісцы квітанцый за перавышэнне хуткасці, забыўшыся пра свой абавязак забяспечваць бяспеку на дарогах, то пра што можна далей казаць. Хлопцы, калі гэты мост сапраўды ўяўляе небяспеку, вы павінны біць ва ўсе званы, а не хавацца за дрэвамі з радарам, ловячы кіроўцаў, якія праехалі з хуткасцю 50 км у гадзіну замест сарака.

Ці вы чакаеце, пакуль на гэтым месцы адбудзецца буйное ДТЗ і вы зможаце праславіцца на ўсю Беларусь?

Калі ж вы лічыце, што мост праз Друць каля Бярозаўкі небяспекі дарожнаму руху не ўяўляе, здыміце ўжо гэты “часовы” знак, не рабіце сябе пасмешышчам для ўсёй краіны. Хочацца таксама пажадаць начальніку Бялыніцкага РАУС Юрыю Пятровічу Сіманаву, каб ён таксама ўсё ж дамогся нейкага канкрэтнага адказу ад сваіх падначаленых інспектароў дарожнага руху і, у залежнасці ад іх меркавання, альбо прымусіў слаўных дарожнікаў займацца сваёй непасрэднай працай і зрабіць рамонт маста, альбо прымусіў іх жа прыбраць вечны “часовы” знак.

Калі ж, Юрый Пятровіч, нехта з кіраўніцтва дарожных арганізацый будзе распавядаць вам казкі пра недахоп грашовых сродкаў, нагадайце гэтым людзям, што ўсе кіроўцы краіны плацяць так званы “дарожны збор”, які і павінен ісці на рамонт аўтамабільных дарог, і які, дарэчы, не так даўно зноў значна вырас. Я асабіста думаю, што грошы якраз хапае, бо ўжо каторы дзень назіраю, як “дарожнікі” выразаюць быльнік каля дарогі, збіраюць смецце, паляць сучча і г. д.. Сапраўды, калі ім той мост рамантаваць, нашмат важней “паказуху” навесці…

І калі начальнік РАУС гэта зробіць, магчыма, тады законапаслухмяныя кіроўцы, якія едуць па населенаму пункту з хуткасцю не большай за 60 км у гадзіну, не будуць называць яго падначаленых “салаўямі-разбойнікамі”. Бо зараз яны сапраўды свайго былiннага “продка” нагадваюць вельмі шмат каму…

***Іван Барысаў***

## Новы кіраўнік Магілёўшчыны

Уладзімір Даманеўскі нарадзіўся ў 1960 годзе ў Дзяржынску і рабіў кар’еру на малой радзіме. Пасля заканчэння БДАТУ ён працаваў дырэктарам станцыі юных тэхнікаў, а потым інструктарам арганізацыйнага аддзела Дзяржынскага гаркама КПБ. Пасля развалу СССР яго пасаду трансфармавалася ў загадчыка аддзела па справах моладзі Дзяржынскага гарвыканкама (пасля і райвынкама).

Даманеўскі атрымаў другую адукацыю ў Акадэміі кіравання (1998) і пайшоў на павышэнне, у Мінаблвыканкам. За восем гадоў працы ён дарос да намесніка старшыні камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванні. Нейкі час Даманеўскі інспектаваў Міншчыну ў складзе апарату Саўміна, а ў 2009 стаў кіраўніком Слуцкага райвыканкама.

З 2013 Даманеўскі быў памочнікам Лукашэнкі, інспектарам па Гродзеншчыне.

# РЫГОР КАСТУСЁЎ: КАДРЫ, ПАДАБРАНЫЯ РУДНІКАМ І ЛАЎРАНКОВЫМ, ПЕРАДВЫЗНАЧЫЛІ ПРАВАЛ ЭКАНОМІКІ МАГІЛЁЎСКАЙ ВОБЛАСЦІ

***Галоўнай прычынай правалаў у эканоміцы Магілёўшчына стаў падбор кадраў на ключавыя пасады ў кіраўніцтве вобласці і раёнаў, заявіў у інтэрв'ю "Нашаму Магілёву" экс-кандадат у прэзідэнты Беларусі, намеснік старшыні Партыі БНФ Рыгор Кастусёў.***



***Рыгор Кастусёў***

*- Рыгор Андрэевіч, змена старшыні Магілёўскага аблвыканкама, якая адбылася напрыканцы мінулага года, ці можа неяк палепшыць эканамічную сітуацыю ў вобласці?*

- Новага старшыню аблвыканкама я асабіста не ведаю, нават з ім не сустракаўся, у адрозненні ад Рудніка, з якім мне прыходзілася перасякацца. Скажу шчыра, калі ён прыйшоў на пасаду старшыні Магілёўскага аблвыканкама і ў мяне, і ў многіх маіх знаёмых былі спадзяванні, што Руднік зробіць так, што Магілёўшчына зрушыцца да лепшага і ў эканоміцы, і ў іншых сферах. Але нашы спадзяванні не спраўдзіліся, нягледзячы на тое, што Руднік мае і добрую адукацыю, і навучаўся нават у Еўропе, хоць гэта была ГДР. У чым я бачу прычыны гэтых правалаў Магілёўскай вобласці, і ў першую чаргу таго, што валавы прадукт у нас зменшыўся амаль на 4%? Асноўная прычына – правалы ў працы з падборам кадраў. Падбор кадраў на Магілёўшчыне кульгае і, на маю думку, віна тут не толькі Рудніка, але і памочніка прэзідэнта Лукашэнкі па Магілеўскай вобласці Генадзя Лаўранкова.

*- Чаму вы так лічыце?*

- Вельмі шмат прыкладаў, дзе яскрава відаць, што падбор кадраў быў ніякі. Я добра ведаю, напрыклад, каго прызначалі ў Шклоўскім раёне. І самае цікавае, што Генадзь Лаўранкоў таксама асабіста ведае тыя кадры. Што здарылася, што ён прымаў рашэнне іх прызначаць на гэтыя пасады, я дагэтуль не магу зразумець. Я таксама Лаўранкова ведаю, ведаю яго пазіцыю наконт гэтага. Чаму яго пазіцыя памянялася?

Напрыклад, як паказвае статыстыка, за апошнія чатыры гады ў Шклоўскім райне трапілі пад суд першы намеснік старшыні райвыканкама, намеснік старшыні райвыканкама. Старшыня райсавета некалькі год знаходзіўся на сваёй пасадзе з непагашанай судзімасцю. І зараз таго чалавека, якога людзі не абралі дэпутатам, ставяць намеснікам старшыні райвыканкама. І такіх прыкладаў толькі па Шклоўскім раёне, каб палічыць, пальцаў дзвюх рук не хопіць.

Вось менавіта правал у працы з падборам кадраў і прывёў да таго, што ў эканоміцы Магілёўскай вобласці адбылося такое падзенне – і па экспарце, і па іншых напрамках.

Звярніце ўвагу, што нават у спорце Магілёўская вобласць цалкам здала пазіцыі. І футбольныя каманды, і хакейныя. Калі такое было, што магілёўскі "Днепр" выйшаў з вышэйшай лігі?

*- Ці здолее нешта змяніць тут новы старшыня аблвыканкама – Уладзімір Даманеўскі?*

- Нягледзячы на тое, што змянілі старшыню аблвыканкама, сітуацыя да лепшага, наўрацці, зменіцца, асабліва ў сельскай гаспадарцы. Бо замена аднаго старшыні аблвыканкама не будзе мець ніякага значэння.

Я ўжо рабіў прапанову адправіць на пару месяцаў у адпачынак з захаванннем 75% сярэдняга заробку супрацоўнікаў Магілёўскага аблвыканкама – старшыню, яго намеснікаў, іншых, а таксама старшыню аблсавета. Ці пагоршыцца сітуацыя ў вобласці? Я упэўнены, што сітуацыя не памяняецца, а можа нават зменіцца да лепшага. Таму што аблвыканкам ніякай ролі, як я бачу, не адыгрывае ў эканоміцы Магілёўскай вобласці.

*- Няўжо чыноўнікі ніякім чынам не зацікаўленыя ў паляпшэнні сітуацыі на той зямлі, на той тэрыторыі, дзе працуюць?*

Справа ў тым, што сярод іх значна ўзрос узровень карупцыі. Менавіта карупцыйны складнік магілёўскіх абласных чыноўнікаў у першую чаргу адбіваецца на выніках работы. Асноўная задача чыноўніка – пражыць сённяшні дзень – што ўхапіў, то маё, што не ухапіў, то заўтра ўхаплю. Ні адзін чыноўнік ні ў вобласці, ні ў раёнах не адказвае за вынікі сваёй працы. Заўважце, што за апошні час па вобласці не звольнілі ніводнага чыноўніка, акрамя Рудніка, які паспеў звольніць трох дырэктароў. Гэта мізэр. Калі ў Магілёўскай вобласці не будзе разбору палётаў з кадрамі і карупцыяй, то зніжэнне паказчыкаў будзе адбывацца і ў гэтым годзе. Менавіта чынавенства разам са сваім карупцыйным складнікам і давяло вобласць да такой сітуацыі.

*- Як вы ацэньваеце перспектывы Пятра Рудніка на пасадзе гендырэктара "Магілёўхімвалакна"?*

Перамяшчэнне Рудніка на пасаду гендырэктара "Хімвалакна" гэта для яго шматкратнае паніжэнне. Ну а ўвогуле, патрэбны кардынальныя змены ў падборы кадраў, змены ў падыходах да карупцыянераў магілёўскіх. Калі гэтага не адбудзецца, то ні на "Магілёўхімвалакне", ні ў вобасці сітуацыя не зменіцца. І пакуль падстаў для спадзяванняў на лепшае няма.

Численность населения Могилевской области на 1 января 2015 года составила 1 070,7 тыс. человек.

В 2014 году в области родилось 13 298 детей, умерло 14 895 человек. Естественная убыль населения составила 1 597 человек.

Из общего числа умерших 3 021 человек (20,3%) составили лица трудоспособного возраста.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ПЕРСПЕКТЫВЫ ВЁСКІ

***Сёння даволі цяжка ацаніць рэальны стан нашай сельскай гаспадаркі. Па-першае ,няма нармальна скалькуляванай бухгалтарскай базы дадзеных па саміх гаспадарках. Па-другое, часцяком адносіны паміж прадпрыемствамі вызначаюцца не эканамічнымі патрэбамі, а адміністрацыйным дыктатам.***



*Андрэй Юркоў*

Вельмі складана сёння зразумець у агульнай масе даўгоў нашай вёскі, хто, што і каму павінен, ці сам ён браў, ці прымусілі "зверху", ці трэба будзе аддаваць, ці, як заўсёды раней, спішуць. Але фактам ёсць адсутнасць у 90-95% гаспадарак абаротных сродкаў для вядзення бягучай дзейнасці і выплаты заробкаў (па стане на восень 2014г.). Восеньская сяўба ў першы раз за апошнія гады была праведзена амаль без унясення мінеральных угнаенняў (дарэчы, і тут, магчыма, пашанцавала, бо зімоўка складаная і прыйдзецца ўвесну багата перасяваць). Выключэнні, безумоўна, дзесьці ёсць, але яны толькі падцвярджаюць правіла. Грошай на рамонт тэхнікі няма і чакаць іх няма адкуль, бо і ў бюджэце іх пакуль, відаць, не густа.Пра ўгнаенні,сродкі абароны раслін пакуль ніхто нават нічога і не кажа.Відавочна, што сітуацыя досыць складаная, а вясна ўжо не за гарамі і трэба штосьці тэрмінова вырашаць.

Што ж прапануюць нашы чыноўнікі? У асноўным ідэі зводзяцца да звыклых : узмацніць, загадаць, адшукаць. Але ёсць і новае: акцыянаваць па працоўнаму ўнёску за апошнія 5 год, дазволіць выкуп акцый за ўласныя сродкі працаўнікоў. З бюджэту ў вёску сродкі накіроўваць па прынцыпе: палову - на плошчу сельгасугодзяў, другую - на выробленую прадукцыю. У прынцыпе, усё гэта "новае"мае доўгую бараду. Але, на мой погляд, спазнілася гадоў так на дваццаць. Дурняў, гатовых гуляць у гульні з нашай сістэмай, сярод працоўнага люду ўжо не засталося. Калі ж гэтыя захады мяркуецца выкарыстаць для "сваіх", то ўсё роўна застаецца багата пытанняў. Галоўнае, - як матываваць наёмных працаўнікоў да адказнай працы? Нават прыватызаваўшы праўдамі і няпраўдамі прадпрыемствы, нерэальна зрабіць іх эфектыўнымі без зменаў адносін да працы. А столькі гадоў працуючы "на таго парня", імпэту на гэта не засталося амаль ні ў каго. Нічога не кажацца пра спісанне даўгоў, а яны ж не пад'ёмныя. Разлічваць на сродкі з бюджэту вёсцы таксама не выпадае, хаця б іх хапіла на пакрыццё ранейшых пазык.

Таму надыйшоўшы Новы 2015 год абяцае быць вельмі вясёлым, бо, гледзячы на хваробы нашай сельскайгаспадаркі, і лекі, якімі яе плануюць лячыць, цяжка нават уявіць, дзе беларуская вёска апынецца. Досыць дакладна можна прагназаваць спад вытворчасці і зьмяншэнне колькасці працоўных месцаў. Пачнецца ,напэўна, і ліквідацыя зусім лядашчых гаспадарак. Даходы вяскоўцаў будуць стабільна падаць. Ці надоўга? Прагназаваць складана. З аднога боку, міжнародная ізаляцыя нашага галоўнага рынку збыту, Расіі, павінна прывесці да падвышэння попыту на нашы харчы. З іншага боку, за апошнія гады рэзка ўзрасла інтэнсіўнасць нашай сельскай гаспадаркі і, адпаведна, яе выдаткі. У асноўным, нажаль, гэта адбылося за кошт масавых закупак тэхнікі, тэхналогій і сыравіны за валюту ў заходніх краінах. Замежныя ноў-хаў дазволілі дасягнуць падвышэння прадукцыйнасці і росту валавых паказчыкаў, але вымылі апошнюю валюту з краіны. І цяпер падтрымліваць гэты механізм няма за што (імпартныя запчасткі, матэрыялы, насенне і г.д.). Таму, пры непазбежным скарачэнні вытворчасці, уладам прыйдзецца выбіраць: ці нас пасадзіць на бульбу з капустай, ці, па-ранейшаму , нарошчваць экспарт на ўсход. А там з-за эканамічнага бязладдзя (двухразовая дэвальвацыя) цэны ў валюце знізіліся на 30-40%. Перанакіраваць продаж нашай сельгаспрадукцыі на іншыя рынкі нерэальна, бо яе якасць кульгае. Колькі б мы не нахвальвалі сваё, айчыннае, але гэта самападман. Нарабіць шмат без канкурэнцыі,з пад палкі, яшчэ можам, але каб добра - ніяк. Атрымліваецца, што пакуль Расія ў эканамічным крызісе і цэны на нафту нізкія, не варта чакаць і росту цэн на расійскім рынку на харчы. А, значыць, без правядзення патрэбных рэформаў, нашу вёску чакае вельмі складаны год.

*Андрэй Юркоў*

## У ЧАКАННІ НОВЫХ АБЯЦАННЯЎ

*(Працяг. Пач. на стар. 1)*

аналітыкі), то беларускія хлопцы на законных падставах могуць быць туды адпраўлены дапамагаць разбірацца, які накірунак ісламa больш дакладны. Аналагічна – калі зноў рэзка абвострыцца канфлікт паміж Азербайджанам і Арменіяй, ці ваенныя дзеянні перакінуцца з Украіны на тэрыторыю Расіі.

Яно нам трэба? Такое ўражанне, што нашы ўладныя чыноўнікі па трупах у цынкавых трунах засумавалі. Але чаму тут здзіўляцца, не іх дзеткі і ўнукі, калі што, туды паедуць, яны тут застануцца, як гэта было заўсёды на працягу ўсёй нашай гісторыі. Армія ў нас заўсёды была "рабоча-сялянская". Праўда, ёсць яшчэ спадзяванне, што ўлады "уключаць мазгі" і адменяць сваё "мудрае" новаўвядзенне, апошні сойм Патрыі БНФ накіраваў адпаведны зварот на гэты конт ва ўсе ўладныя інстанцыі.

Што ж датычыцца стабільнасці, то тут мне крыху смешна становіцца – усе апошнія гады ў нас стабільна раслі толькі кошты, даўгі іншым краінам, курсы замежных валют і інфляцыя. Пра нейкі рост эканомікі гаварыць не выпадае, рэальныя (а не падлічаныя слаўнымі беларускімі статыстыкамі) заробкі і пенсіі ў

*(Заканчэнне на стар. 8)*

# ШТО ЧАКАЕ БЕЛАРУСАЎ ПАСЛЯ ДЭВАЛЬВАЦЫІ. ПРАГНОЗЫ ЭКСПЕРТАЎ

***“Паходня” з дапамогай “Еўрарадыё” і эканамістаў разбіраецца, чаго чакаць ад курса долара ў бліжэйшыя месяцы, і ці можна нарэшце расслабіцца.***

У апошнія дні студзеня ў абменніках нарэшце з’явілася валюта, долары зноў можна набыць праз інтэрнэт-банкінг, а курс амерыканскай валюты нават часам крыху падае. Праўда, потым зноў вырастае. Эксперты эканамісты гавораць, што ўжо можна выдыхаць — курс больш-менш стабілізаваўся.

## Рэзкай дэвальвацыі, як у снежні, не будзе

“Вострая фаза гэтага крызісу, насамрэч, завяршылася. Яна, у прынцыпе, была звязаная з тым, што курс беларускага рубля пры мінулай мадэлі курсаўтварэння быў завышаны”, — расказвае эксперт, фінансавы аналітык афіцыйнага партнёра Альпары ў Мінску Вадзім Іосуб. На яго думку, 15 з паловай тысяч — гэта больш-менш тое, колькі каштуе цяпер у Беларусі долар.

Эксперт нагадвае, што агулам рубель дэвальваваўся прыкладна на 50%. Гэта нават больш, чым прагназавалі некаторыя эканамісты ўвосень 2014 года. Таму можна меркаваць, што рэзкіх ваганняў курса, прынамсі ў бліжэйшыя месяцы, чакаць не варта. Можна смела расслабіцца.

## Як дзейнічаюць цяпер Нацбанк і урад?

“Нацбанк заявіў пра сваю новую эканамічную палітыку, з дапамогай якой ён будзе займацца ўраўнаважаннем валютнага рынка. І там, у прынцыпе, вельмі жорсткая грашова-крэдытная палітыка. Калі атрымліваецца, што з улікам дэвальвацыі, што ўжо адбылася, практычна не плануецца павелічэнне грашовай масы на гэты год”, — расказвае іншы эканаміст, Сяргей Чалы.

Ён дадае, што кажучы простай мовай, новая палітыка фінансавых уладаў азначае ў літаральным сэнсе “зацягванне паясоў”. То бок пра рост заробкаў, пенсій і стыпендый, як гэта было пасля дэвальвацыі 2011 года, думаць не варта. Улады абралі курс на павальную эканомію і, як здаецца, намеру раздуваць новую мыльную бурбалку не маюць.

## Ці будуць расці долар і еўра?

“Курсы валют будуць змяняцца, па-першае, зыходзячы з попыту і прапановы. А па-другое, зыходзячы з узаемнага вагання валют на знешніх рынках. З улікам таго, што ў свеце долар расце ў дачыненні да большасці валют, уключаючы і расійскі рубель, і еўра. І хутчэй за ўсё, гэтая тэндэнцыя ў свеце працягнецца”, — перакананы Вадзім Іосуб.

То бок долар будзе расці нягледзячы на самыя жорсткія меры беларускіх уладаў — ён расце цяпер незалежна ад слабасці ці моцы рубля. З еўра не так адназначна — курс еўрапейскай валюты зніжаецца ў дачыненні да амерыканскай, таму адносна беларускага рубля еўра калі і будзе расці, то не так заўважна, як долар.

## Якім чынам улады будуць “зацягваць паясы”?

“Тут такая хітрая штука. Каб наўпрост не чапаць людзей, вырашылі прайсціся па прадпрыемствах. А потым ужо само яно атрымаецца, што не вельмі добрая праца прадпрыемстваў прывядзе да адсутнасці росту прыбыткаў у людзей. У рэальным выражэнні яны нават зменшацца. Гэта звязана, таму што фонд аплаты працы залежыць ад прадукцыйнасці. То бок прыбытковасці, падзеленай на колькасць працоўных”, — расказвае Сяргей Чалы.

Але Чалы да гэтага дадае, што мы жывем у выбарны год. Таму рашучасць Нацбанка і ўрада ў палітыцы “зацягвання паясоў” можа вельмі хутка змяніцца на цалкам адваротную. Кіраўніцтва краіны павінна мець гарантыі лагоднага волевыяўлення, якое гарантуюць высокія заробкі і пенсіі. У такім выпадку зімойвясной 2016, на думку Чалага, нас можа чакаць паўтарэнне 2011-га.




## Расслабляцца не варта — яшчэ адна хуткая дэвальвацыя таксама не выключаная

Эканаміст Леанід Заіка нагадвае пра яшчэ адну праблему — кошты ў Расіі ў пераводзе на долары па-ранейшаму застаюцца значна ніжэйшымі, чым у Беларусі. Гэта праблема:

“Цяпер самая сур’ёзная праблема — суадносіны пакупніцкай здольнасці беларускага і расійскага рубля. Таму што ў Расіі кошты ў доларавым эквіваленце нашмат ніжэйшыя, чым у Беларусі. І ў такой сітуацыі цалкам рэалістычна ва ўмовах Мытнага саюза з’яўленне рэверсіўных плыняў. То бок мяса, малако, тэлевізары, нават аўтамабілі будуць ісці з Расіі ў Беларусь, а не наадварот”, — перакананы Заіка.

Таму, на яго думку, расслабляцца зусім не варта. Рэальны курс долара, пасля якога можна на некалькі гадоў забыць пра слова “дэвальвацыя”, Заіка ацэньвае ў 22-25 тысяч рублёў.

Такім чынам, аптымізму не шмат. Варыянт першы: растуць кошты і зніжаюцца заробкі. Тады можна разлічваць на больш-менш стабільную сітуацыю на валютным рынку, павольны рост долара. Варыянт другі: растуць кошты, следам за імі заробкі. У такім выпадку вельмі вялікая верагоднасць яшчэ адной дэвальвацыі.

*(Заканчэнне на стар. 8)*

# КОЛЬКІ ВЯРОВАЧЦЫ НЕ ВІЦЦА …

***29 студзеня 2015 году ў час правядзення прэс-канферэнцыі для журналістаў беларускіх і замежных СМІ А.Лукашэнка заявіў, што да канца свайго прэзідэнства не адмовіцца ад сацыяльна арыентаванай мадэлі ў развіцці дзяржавы.***

***«Та модель, которая была у нас с вами и существует до сих пор, мы от неё не отказываемся. Мы называем её социально ориентированной, то есть в центре стоит человек. Я от неё не откажусь до конца своего президентства. Мы эту модель нащупали, мы эту модель создали, мы этот путь определили и по нему надо идти, не шарахаясь, особенно в период кризиса», - адзначыў ён.***




Чытаючы падобныя выказванні кіраўніка краіны, міжволі ўсплываюць успаміны аб падзеях 60-х, 70-х, 80-х гадоў мінулага стагоддзя, калі разнастайныя лідары камуністычнай партыі Савецкага Саюзу такім жа чынам заяўлялі аб пабудове дзяржавы, дзе забяспечаны клопат аб кожным савецкім чалавеку. У часы Савецкага Саюзу, як і зараз у незалежнай Беларусі, таксама прымаліся самыя разнастайныя праграмы, накшталт Харчовай, або Жыллёвай. Некаторыя кіраўнікі краіны нават заяўлялі аб хуткай пабудове “камунізму” з галоўным яго прынцыпам – “ад кожнага - па здольнасцях, кожнаму - па патрэбе”, а чыноўнікі меншага маштабу ва ўвесь голас падпявалі ім. І як заяўлялі тагачасныя лідары, у цэнтры савецкай сістэмы таксама знаходзіўся чалавек.

Як паказаў час, і сапраўды, для некаторай катэгоры грамадзян Саюзу камунізм быў усёж-такі створаны. У гэты разрад пападала высокапастаўленае партыйнае чынавенства, для якіх і было арганізавана забяспячэнне па поўных іх патрэбах. Для асноўнай жа часткі грамадзян усё гэта так і засталося на ўзроўні мараў…

Канешне, сучасныя магчымасці грамадзян Беларусі ў забяспячэнні сваіх патрэбаў непараўнальна вышэйшыя за магчымасці часоў Савецкага Саюзу.

Але ж прынцып сацыяльнага размежавання грамадзян з забяспячэннем яго на карысць высокапастаўленага беларускага чынавенства за кошт бюджэтных сродкаў у нашай краіне да гэтай пары захаваўся.

Як і ў савецкія часы, беларускае чынавенства зноўку прымае на кожную пяцігодку самыя разнастайныя праграмы развіцця і рэфармавання розных галін эканомікі і сацыяльнай сферы з мэтай падвышэння ўзроўню жыцця грамадзян краіны, прымае рашэнні па фінансаванні гэтых праграмаў і, як склалася на практыцы, па заканчэнні пяцігодак чамусьці забывае адсправаздачыцца перад гэтымі ж грамадзянамі аб іх выкананні, як і аб скарыстанні фінансавых сродкаў.

Колькі, напрыклад, прагучала заяваў аб хуткім поўным пераводзе забяспячэння г.Мінска пітной вадой з падземных крыніцаў. Згодна Дзяржаўнай праграмы “Чыстая вада” на 2011 – 2015 гады, ў 2013 годзе Мінск павінен быў цалкам перайсці на падземныя крыніцы водазабяспячэня.

Нават тагачасны міністр ЖКГ, а зараз старшыня Мінскага гарвыканкаму Андрэй Шорэц, яшчэ ў чэрвені 2012 г. заяўляў, што пастаўленая задача аб завяршэнні пераводу Мінска на падземныя крыніцы водазабяспячэння будзе выканана дзякуючы будаўніцтву водазабора “Вязынка”, рэканструкцы іншых вадазабораў. Тым самым вырашыцца пытанне забяспячэнне падземнай вадой жыхароў Фрунзенскага, Маскоўскага, часткова Кастрычніцкага раёнаў сталіцы, да якіх да гэтай пары пастаўляецца вада з вадасховішча Крылова Вілейска-Мінскай воднай сістэмы.

Сёння на двары ўжо 2015 год, а аб чыстай артэзіянскай вадзе жыхарам гэтых раёнаў застаецца толькі марыць.

Працэсамі фінансавання і выкарыстання дзяржаўных сродкаў па набыццю абсталявання для станцый абязжалезвання вады водазабора “Вязынка”, на іншыя водазаборы Мінска, працэсамі будаўніцтва аб’ектаў водазабора яшчэ ў 2012 годзе зацікавіліся Генеральная пракуратура і Камітэт дзяржкантролю Беларусі. Але далей цікавасці справа не пайшла, відаць праца для іх аказалася “непад’ёмная”. Як і праца па вызначэнні маршруту выдзеляемых фінансавых сродкаў на выкананне разнастайных праграм у сферы аказання насельніцтву жыллёва-камунальных паслуг…

Толькі канстатацыяй фактаў завяршыліся і іншыя выяўленыя справы аб беспарадках у выкарыстанні фінансавых сродкаў.

Так, напрыклад, 30 мая 2012 года на паседжанні калегіі КДК, тагачасны старшыня А. Якабсон адзначаў у сваім выступе аб шматлікіх фактах беспарадкаў і парушэнняў пры

*(Заканчэнне на стар. 7)*

# КОЛЬКІ ВЯРОВАЧЦЫ НЕ ВІЦЦА ...

*(Заканч. Пачатак на стар. 6)*

выкарыстанні дзяржаўных сродкаў і маёмасці ў ЖКГ г.Мінска, выяўленых па выніках работы за 2010-2011 гады. У 25 правераных з 182 дзеючых на той час арганізацый ЖКГ горада, неабгрунтаваныя страты склалі 48 млрд. рублёў. Па разліках старшыні КДК агульны памер страт толькі дзяржсродкаў па гораду склаў каля 120 млрд.руб.

І зараз як здзек над гараджанамі гучыць прапанова новага старшыні Мінскага гарвыканкама А. Шорэца да жыхароў сталіцы аб неабходнасці іх далучэння да стварэння так званай "народнай праграмы" па развіцці горада.

Не лепшым чынам адбываецца выкарыстанне чыноўнікамі народных фінансавых сродкаў і ў іншых рэгіёнах нашай краіны.

Як, напрыклад, можна разумець распараджэнне Магілёўскіх уладаў аб неабходнасці набыцця гарадскім водаканалам у 2013 годзе прагулачнага цеплахода за **420 тысяч дол. ЗША**?

З якімі мэтамі, менавіта, Магілеўскім водаканалам набываўся дадзены цеплаход, калі ў горадзе існуе цэлае ўпраўленне па спорту і турызму, і рачны порт, дзе ўжо меліся два прагулачныя цеплаходы , эксплуатацыя якіх да гэтай пары не акуплялася з-за іх неэфектыўнага выкарыстання?

І чаму менавіта за 420 тыс. долараў, калі падобнага класа цеплаходы з невялікім тэрмінам эксплуатацыі выстаўляліся на продаж у Беларусі па кошце каля 150 тыс. дал.?

А зараз як затраты на пакупку гэтага цеплахода, так і страты ад яго эксплуатацыі ( толькі за 2013 год – 280 млн. руб.) кладуцца на сабекошт прадукцыі і паслуг водаканала, і ў сваю чаргу – на плечы гараджан у выглядзе "пацяжэўшых жыровак".

На плечы грамадзян краіны перакладваюць свае "вольнасці" чыноўнікі і іншых ведамстваў. Так, у сферу мадэрнізацыі аб'ектаў "вялікай" энергетыкі толькі за 2006 – 2010 гады з розных крыніц фінансавання ўкладзена больш пяці млрд. долараў ЗША. Але ж грамадзяне не пабачылі ні змяншэння коштаў на



электраэнергію, ні змяншэння коштаў іншых паслугаў.

Толькі, згодна справаздач Міністэрства эканомікі РБ, мадэрнізацыя энергетычных магутнасцяў з 2006 па 2013 гады прывяла да эканоміі больш 2,3 млрд. кубаметраў прыроднага газу. Але чаму тады пры адсутнасці новаўведзеных аб'ектаў, спажываючых прыродны газ, пры скарачэнні насельніцтва краіны, пры змяншэнні энергаёмістасці прадукцыі беларускіх прадпрыемстваў згодна статыстычных дадзеных, мы закупілі ў 2013 годзе па аб'ёму столькі ж газу, як і ў 2006 годзе?

Аб фактах безгаспадарчасці на розных узроўнях сферы ЖКГ, што перакладваюцца на плечы грамадзян, ад міністэрстваў да прадпрыемстваў на месцах, як, напрыклад, у Жылкамгасе Шклоўскага райвыканкама, можна казаць яшчэ вельмі шмат.

Побач з цэлым шэрагам карупцыйных фактаў па злоўжыванню службовым становішчам з боку кіраўнікоў і супрацоўнікаў ЖКГ і Шклоўскага райвыканкама за апошнія 10 год, выяўлены і новыя. Каля 10 год таму назад прадпрыемствам ЖКГ Шклоўскага раёна была закуплена лінія па перапрацоўцы цвёрдых бытавых адыходаў. Але за гэты тэрмін яна так і не была ўсталявана па прычыне неправільнай камплектацыі абсталявання, і з часам цалкам прыйшла ў непрыгоднасць. Пры ўсіх "намаганнях" супрацоўнікаў КДК і сілавых ведамстваў Магілёўскай вобласці, вінаватых у дадзенай сітуацыі выявіць так і не ўдалося…

Дык для каго А.Лукашэнка стварыў і захоўвае, як ён кажа, сацыяльна арыентаваную мадэль у развіцці дзяржавы? І які чалавек знаходзіцца ў цэнтры гэтай мадэлі?

Сыходзячы з сітуацыі, склаўшайся ў нашай краіне, у цэнтры стаіць беларускі чыноўнік. А "сацыяльна арыентаваная" мадэль у развіцці дзяржавы забяспечвае яму і ягонай сям'і жыццё па прынцыпу "ад кожнага- па здольнасцях, кожнаму – па патрэбе". І пры гэтым здольнасці яго ўвесь час звужаюцца, а патрэбы толькі пашыраюцца.

Ад "цэнтральнай фігуры" беларускай мадэлі развіцця дзяржавы цвёрда патрабуецца толькі адно – гэта забяспячэнне яскравай перамогі ў час чарговай выбарчай кампаніі. Вось на гэтае яна здольная. Таму і Лукашэнка не жадае адмаўляцца да канца свайго "прэзідэнства" ад створанай мадэлі .

Але ж ,як кажуць у народзе, колькі б вяровачцы не віцца, а канец будзе, як і з існуючай мадэллю.І што тады будзе рабіць гэтая "цэнтральная фігура"?

***Намеснік старшыні Партыі БНФ Рыгор Кастусёў***

## ЖИТЕЛИ МОГИЛЕВА ХОТЯТ, ЧТОБЫ ЛУКАШЕНКО БЫЛ ПРЕЗИДЕНТОМ ЕЩЕ 25 ЛЕТ

***47 жителей Могилева направили в парламент обращение с просьбой увеличить следующей срок президентства Лукашенко с 5 до 25 лет.***




Граждане просят депутатов срочно внести соответствующие изменения в статью Конституции, касающуюся сроков полномочий президента, на основании того, что действующий глава государства уже заявил о своем намерении баллотироваться на пятый срок.

«В целях экономии бюджетных средств и за выдающиеся заслуги перед белорусским народом и всем человечеством» подписавшие обращения предлагают «разрешить выбирать президента РБ на юбилейный срок, проиндексировав его с учетом девальвации-инфляции, с пяти лет до пяти лет во второй степени», передает БелаПАН.

Выборы президента на более продолжительную каденцию жители Могилева видят необходимым проводить на основе всеобщего полного и прямого избирательного права при тайном голосовании под контролем председателя Центральной избирательной комиссии Лидии Ермошиной.

Аналогичное письмо направлено председателю Совета Республики Национального собрания Михаилу Мясниковичу.

Инициатором обращения выступил известный активист независимого профсоюза РЭП из Могилева Алексей Павловский.

## “Што рабіць?” — парады эканамістаў

*(Заканч. Пачатак на стар. 5)*

Пільна сачыць за курсам расійскага рубля. Беларускі прывязаны да яго нашмат мацней, чым да падзей сярэдзіны снежня 2014 года. Моцныя ваганні курса ў Расіі неўзабаве адаб’юцца на Беларусі.

Трымацца долара. Калі ёсць магчымасць, вядома. Павялічваць свой асабісты золатавалютны запас сёлета будзе значна цяжэй.

Быць асцярожным з доўгатэрміновымі рублёвымі ўкладамі. Нават высокія працэнтныя стаўкі, як паказвае практыка, не гарантуюць захавання сродкаў у выпадку дэвальвацыі.

***Алесь Пілецкі, “Еўрарадыё”***

## 28% населения Могилевщины имеют пенсионные удостоверения

Напомним, согласно законодательства, пенсионный возраст в Беларуси наступает для женщина в 55 лет, для мужчин – в 60 лет. По информации комитета по труду, занятости и социальной защите Могилевского облисполкома, на данный момент в нашем регионе проживает более 300 тысяч пенсионеров. Это практически треть всего населения области. Причем 56 человек перешагнули столетний рубеж. Около 70 тысяч пенсионеров продолжают работать и после выхода на заслуженный отдых.

А молодые люди ходят без работы...

## У ЧАКАННІ НОВЫХ АБЯЦАННЯЎ

*(Заканч. Пачатак на стар. 1, 4)*

эквіваленце “праклятых буржуінскіх грошай” значна зменшыліся, як і пакупніцкая здольнасць простых людзей. Калі заходзіце ў крамы, паважаныя чытачы, самі бачыце, наколькі выраслі кошты літаральна на ўсё ў бялыніцкіх магазінах. Пакуль яшчэ крыху трымаюцца цэны толькі на мясныя вырабы, але гэта толькі пакуль і таму, што Расія не хоча наша мяса купляць, мясакамбінаты ім завалены.

Зараз нашы мудрыя чыноўнікі распавядаюць пра тое, колькі яшчэ грошай “квітнеючая Беларусь” бліжэйшым часам возьме ў крэдыт у “праклятых буржуінаў”, а таксама аб тым, як шмат “зайцаў” у бюджэт прынясуць “лайдакі і дармаеды”. Пра лайдакоў я прамаўчу, бо ўсім адэкватным людзям зразумела, што з сапраўдных асацыяльных асоб ніякіх грошай ніколі не возьмеш, бо іх у іх няма. Што ж датычыцца пазык, нашы кіраўнікі чамусьці не кажуць пра тое, што ўсе апошнія гады мы і так жылі фактычна ў доўг, нахапалі процьму крэдытаў, а зараз прыйшоў час іх аддаваць. Таму патрэбна зацягваць паясы, каб іх выплаціць, і ніякага рэальнага росту заробкаў і пенсій у бліжэйшы час проста не будзе. Ну, але ж нашым чыноўнікам усе гэта пофіг, працягваем выпрошваць новыя пазыкі. Толькі чым разлічвацца будзем і хто іх нам дасць, нашы чыноўнікі і кіраўнік краіны чамусьці не кажуць. Зразумела, што пад выбары ў Расіі некалькі мільярдаў выклянчым, але што будзе з нашай эканомікай пасля выбараў…

***Іван Барысаў***

## КРИМИНАЛ

2 февраля на ул. Красноармейской в г.п. Белыничи ОГАИ задержана а/м «УАЗ» под управлением жителя д. Ахимковичи, 1985 г.р., который перевозил 300 л. дизельного топливо и 75 л. бензина без соответствующих документов. Топливо на сумму 4 522 000 рублей отдано под расписку председателю СПК. Материал проверки направлен в ИМНС по Белыничскому району, сообщает uvd.mogilev.by.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем выдаўца газеты.

Адрас рэдакцыі: 213173, Бялыніцкі раён, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. E-mail: boris196608@bk.ru. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 05.02. 2015 г. у 12-00.